ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

# Народная Воля

№81 (1894)
Субота, 8 мая 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +9...+11, уначы — +7...+9, на працягу сутак — дождж; у Брэсце ўдзень — +10...+12, дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +9...+11 дождж, уначы — +6...+8, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +9...+11, уначы — +9...+11, на працягу сутак — дождж; у Гомелі ўдзень — +13...+15, дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +9...+11, уначы — +8...+10, на працягу сутак — дождж.

*www.meteo.by*



# Нізкі паклон усім, хто здабыў Вялікую Перамогу!

ОТ ДУШИ

## Мы все в неоплатном долгу перед Вами...

Дорогие ветераны Великой Отечественной войны, труженики тыла, бывшие узники фашистских концлагерей!

Примите наши сердечные поздравления с наступающим Днем Победы!

Мы знаем, какой дорогой ценой далось освобождение от коричневой чумы, какие невосполнимые жертвы понес наш народ.

Вы прошли сквозь огонь, смерть, голод и холод на фронтах, Вы не щадили своих сил и здоровья, когда поднимали из руин наши города и села в послевоенное время.

Мы склоняем головы перед Вашим мужеством и героизмом.

К сожалению, фронтовые раны и годы тяжких испытаний дают о себе знать. Вас становится все меньше и меньше...

Казалось бы, государство должно взять на себя всю заботу о ветеранах, чтобы они ни в чем не нуждались. Но раздаются голоса, упрекающие фронтовиков в получении льгот.

Мы никогда не согласимся с этим кощунством и никому не позволим отнять у Вас то, что Вы по праву заслужили.

Мы все в неоплатном долгу перед Вами, и Вы никогда не станете лишними людьми в нашей стране.

Желаем Вам и Вашим близким доброго здоровья и долголетия!

Светлая память тем, кого уже с нами нет.

**Валерий ФРОЛОВ,**
**Владимир ПАРФЕНОВИЧ,**
**Сергей СКРЕБЕЦ,**
**депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь.**

ПУЛЬС

## На выпрабаванні ў Сібір

Доследны ўзор 25-тоннага аўтасамазвала, выраблены унітарным рэспубліканскім прадпрыемствам "Магілёўскі аўтамабільны завод імя Кірава", адпраўлены ў Сібір на тыпавыя выпрабаванні.

Паводле задумы, новая машына заменіць серыйна выпускаемы на заводзе 23-тонны аўтасамазвал. На ёй установлены больш магутны рухавік Яраслаўскага завода — у 360 конскіх сіл, які адпавядае міжнародным стандартам "Еўра-2". У гэтай мадэлі палепшана і павышана трываласць і надзейнасць вядучых мостаў, гідраўлікі і іншых вузлоў. Капот і шэраг дэталяў апярэння зроблены са шклопластыку. Палепшаны агульны дызайн, павышана камфортнасць кабіны вадзіцеля.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## 50 вучняў Беларускага гуманітарнага ліцэя адправіліся ў Польшчу для вырашэння пытання аб сваёй далейшай адукацыі

50 вучняў ліквідаванага ўладамі Беларускага гуманітарнага ліцэя адправіліся ў Польшчу для вырашэння пытання аб працягу адукацыі ў польскіх ВНУ.

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік ліцэя, вядомы беларускі кінарэжысёр і педагог Уладзімір Колас, па запрашэнні польскіх грамадскіх арганізацый дэлегацыя вучняў будзе знаходзіцца ў Польшчы на працягу тыдня. У праграме візіту — наведванне Варшавы і Кракава, сустрэчы з прадстаўнікамі ВНУ, а таксама ўдзел у перамовах аб магчымым працягу навучання выпускнікоў ліцэя ва універсітэтах Польшчы.

Нагадаем, што пасля ліквідацыі беларускімі ўладамі летась Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа вучні працягваюць займацца ў сваіх выкладчыкаў, нягледзячы на тое, што закончыліся няўдачай усе спробы зарэгістраваць новую навучальную ўстанову — Беларускі гуманітарны ліцэй.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Пажар у гаражным масіве

У выніку пажару ў гаражным масіве ў Віцебску, які здарыўся ўвечары 6 мая, загінуў 38-гадовы мужчына, другі чалавек сур'ёзна абгарэў, знішчаны 8 гаражоў і 3 аўтамабілі.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## «Юнісон» пачне вытворчасць аўтамабіляў "Люблін-3"

15 мая ЗАТ "Юнісон" — пераемнік аўтамабільнага завода "Форд Юніён" — пачне пад Мінскам вытворчасць малатанажных аўтамабіляў "Люблін-3". Вытворчасць арганізуецца ў рамках сумеснага праекта з кампаніяй Intrall Polska, якая набыла ў паўднёвакарэйскай кампаніі Daewoo аўтамабільны завод у Любліне.

У 2004 годзе мадэльны шэраг аўтамабіляў "Люблін-3" будзе ўключаць у сябе дзевяцімесны мікрааўтобус, грузавы цэльнаметалічны фургон, камбінаваны аўтамабіль для перавозкі пасажыраў і грузаў, а таксама два тыпы шасі з доўгай і кароткай базай, якія далей будуць аснашчацца адпаведнымі кузавамі. У далейшым да мадэльнага шэрагу дададуцца 15-месны мікрааўтобус, грузавік з двайной кабінай, а таксама спецыяльныя аўтамабілі для МУС, "хуткай дапамогі", банкаў, прадпрыемстваў сувязі і дарожных служб.

Паводле слоў В.Дзямідзіка, сёлета на заводзе будзе сабрана тысяча аўтамабіляў "Люблін-3", у 2005-м — 5 тысяч, а ў 2007 годзе плануецца выйсці на ўзровень 10 тысяч машын.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Адзін раз у год — бясплатна

Прэзідыум Савета міністраў Беларусі ўхваліў праект закона, які прадугледжвае ратыфікацыю пратакола аб выкананні рашэння Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД аб наданні ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны права на бясплатны праезд чыгуначным транспартам адзін раз у год. Пратакол быў падпісаны 30 мая 2003 года.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

СУД!

## Слуханне справы па іску Т.Процька і Д.Козыра да Беларускага тэлебачання і яго супрацоўнікаў перанесена

Суд Першамайскага раёна горада Мінска прыняў рашэнне аб пераносе слухання справы па іску старшыні Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Беларускі Хельсінкскі камітэт" (БХК) Таццяны Процька і яе мужа Дзмітрыя Козыра да Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі і аўтараў праграмы "У цэнтры ўвагі" Сяргея Хамянтоўскага і Юрыя Пракопава. Слуханне перанесена на 4 чэрвеня. Да гэтага часу адказчыкі павінны прадаставіць крыніцы інфармацыі, якімі яны карысталіся пры падрыхтоўцы двух выпускаў праграм. У іх ішла размова пра зарплату Таццяны Процька, іх сямейныя аўтамабілі, коней, а таксама агучваліся іншыя звесткі, якія, на думку істцоў, не адпавядаюць рэчаіснасці.

Як паведаміў БелаПАН юрыст БХК Гары Паганяйла, іскавую заяву муж і жонка падалі, палічыўшы, што тэлежурналісты раскрылі тайну сямейнага жыцця. У красавіку суд Першамайскага раёна ўжо разглядаў іск БХК і Т.Процька да НДТРК і яе супрацоўнікаў аб абароне гонару і годнасці. Тады ў задавальненні іскавых патрабаванняў было адмоўлена. БХК накіраваў касацыю ў Мінскі гарадскі суд, а Т.Процька і Д.Козыр падалі новую заяву ў суд Першамайскага раёна. Паводле слоў Г.Паганяйлы, цяпер, з улікам папярэдняга слухання, фармулёўка іску зменена, што дазволіць яшчэ раз праверыць на аб'ектыўнасць беларускае правасуддзе.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

*Михаил МАРИНИЧ:*

## «Верю, что мы мужественно перенесем все эти испытания, жизнь нормализуется, справедливость восторжествует и мы снова будем вместе и счастливы...»

6 мая экс-претенденту в президенты Беларуси, бывшему послу Беларуси в Латвии, экс-министру внешнеэкономических связей Михаилу Мариничу предъявлено официальное обвинение.

Как сообщил "Народной воле" руководитель Центра информации и общественных связей КГБ **Александр Базанов,** *"Маринич привлечен в качестве обвиняемого в совершении преступления, предусмотренного частью 2 статьи 295 ("незаконные действия в отношении огнестрельного оружия, боеприпасов и взрывчатых веществ"). Избранная мера пресечения — заключение под стражу — оставлена прежней".*

Напомним, что сразу после задержания КГБ сообщал, что в отношении Маринича также ***"возбуждено уголовное дело по части 2 статьи 377 ("хищение либо повреждение документов, штампов, печатей").*** По словам Базанова, по данной статье пока идут *"комплексные экспертизы, еще нет заключения ряда экспертиз по секретным документам, поэтому обвинения предъявлены по одной статье. Пока".*

Адвокат Маринича **Вера Стремковская** говорит, что предъявленное обвинение не вызвало шока у ее подзащитного.

— Михаил Афанасьевич называет все это политически мотивированным делом, — говорит Вера Валентиновна. — Ему известно, что еще в конце 2003 года была дана команда сделать его уголовником. С того времени за Мариничем начались неприкрытые слежки... Свой арест он оценивает как натиск на него как на политического деятеля, который предполагал участвовать и в парламентских, и в президентских выборах.

Но в то же время Михаил Афанасьевич не потерял веру в справедливость белорусского правосудия. Он написал жалобу на имя генерального прокурора, в которой изложил видение всего происходящего.

**— 6 мая по БТ снова показывали сюжет про Маринича. Многих удивило его слегка неадекватное поведение. Как правило, у тех, кто попадает в подобные ситуации, вид подавленный, удрученный, а тут... Маринич случайно не отрицает то, что говорил перед камерой?**

— Нет. Но он все время подчеркивает, что его привезли ночью, номера изъятых у него денежных купюр переписывали почти до двух или трех часов ночи. Он был в состоянии сильнейшего стресса. Ему как положено не разъяснили его права, не дали адвоката... Я, конечно, не врач, но, полагаю, это накладывает определенный отпечаток на состояние человека. Может быть, отсюда и тот нервный смех...

**— А он вообще знает, что его снимали?**

— Да.

**— Как известно, обвинений по поводу сбыта или изготовления фальшивых денег Мариничу не предъявлено. Но БТ все равно исправно крутит сюжет о том, что у Маринича изъято 90 тысяч долларов, часть из которых — фальшивые...**

— Эти деньги должны отдать Мариничу, потому что их не имели права отнимать.

Его остановили сотрудники ГАИ как нарушителя дорожно-транспортного движения. Не известно, почему они решили провести досмотр его личных вещей без его согласия на это. Досматривают, обнаруживают этот чемодан и везут в КГБ. Получается, если вы перейдете дорогу в неположенном месте, у вас проверят кошелек, и, если там окажется много денег, вас отправят в КГБ купюры переписывать? Нонсенс. Значит, все это было кем-то спланировано заранее...

На БТ не звучит, что уголовное дело возбуждено не против Маринича, а по факту того, что неустановленное лицо изготовило эти деньги и сбыло их Мариничу. Маринич по этому делу проходит как свидетель. Он воспользовался своими конституционными правами и отказался давать показания по этому факту. Но по БТ уже все рассказали. Откуда у них данные, если Маринич показаний не давал?..

**— Не собирается ли Ваш подзащитный предъявить иск к БТ о защите чести и достоинства?**

— Пока мы написали жалобы по поводу нарушения прав Маринича и УПК при ведении следствия...

Кстати, если кто-то хочет поддержать Михаила Афанасьевича, ему можно написать письмо по адресу: ***Минск, абонентский ящик №8, Главпочтамт, Михаилу Мариничу.*** Он будет получать всю корреспонденцию.

*На днях письмо от отца получили его сыновья.*

***"Верю, что мы мужественно перенесем все эти испытания, жизнь нормализуется, справедливость восторжествует и мы снова будем вместе и счастливы...***

***Главное сегодня — не падать духом, быть внимательным и терпимыми, чувствовать и помогать друг другу, быть рядом с мамой..."***, — пишет Михаил Маринич.

**Марина КОКТЫШ.**

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

## Осечка

Члены профсоюза РЭПАМ предприятия "Конструкторское бюро точного электронного машиностроения Оптико-механического оборудования" (КБТЭМ ОМО) на своем собрании приняли решение не переходить в профсоюз промышленности.

Напомним, что в конце апреля администрация КБТЭМ ОМО распространила заявление, в котором говорилось о желании работников предприятия перейти из профсоюза РЭП (ныне РЭПАМ) в профсоюз промышленности и собрать по этому поводу конференцию. Это заявление под тем или иным предлогом заставляли подписывать начальников отделов предприятия. Председатель профкома КБТЭМ ОМО Игорь Комлик решил созвать собрание, на котором обсудить с членами профсоюза РЭПАМ целесообразность перехода в профсоюз промышленности. В последний момент профсоюзное собрание по настоянию администрации переросло в собрание всего трудового коллектива предприятия.

Председатель профкома Игорь Комлик и лидер профсоюза РЭПАМ Геннадий Федынич, приглашенный на собрание, не стали возражать против такого поворота событий. На собрании присутствовали директор предприятия Владимир Матюшков, генеральный директор объединения "Планар" (в которое входит КБТЭМ ОМО) Святослав Школык, председатель профсоюза промышленности Вадим Федоров, а также "делегация" аппарата ФПБ из 5 человек во главе с зам. председателя ФПБ Эдвардом Матулисом, которые сразу же захватили инициативу в свои руки. Игорю Комлику даже не хотели давать слово.

Более двух часов длилось собрание. Игорю Комлику и Геннадию Федыничу пришлось в буквальном смысле слова отстаивать честь своего профсоюза. Представителям администрации, ФПБ и Вадиму Федорову так и не удалось склонить трудовой коллектив к принятию решения о переходе в профсоюз промышленности.

*praca-by.info*

ВІНШУЕМ!

# Бывайце здаровы, жывіце багата!

*Сёння вядомаму спартыўнаму каментатару **Уладзіміру НАВІЦКАМУ** спаўняецца 50 гадоў.*

**— Уладзімір Мікалаевіч, скажыце шчыра, з беларускай мовай, калі вялі рэпартажы, праблемы былі?**

— Калі ў 1981 годзе я прыйшоў працаваць на тэлебачанне звычайным адміністратарам рэдакцыі інфармацыі, у той жа час паступіў яшчэ і на завочнае аддзяленне журфака БДУ. У нас быў цудоўны, хоць і патрабавальны, выкладчык беларускай мовы Мікола Рыгоравіч Каваленка, і дзякуючы яму я практычна з нуля і пачаў вывучаць родную мову. А мне тады было ўжо 27 гадоў. Так атрымалася, што да гэтага я такой магчымасці не меў. Мой бацька быў ваенным, жылі па ваенных гарадках, і быў тады такі закон (напэўна, не самы разумны і правільны), што дзеці ваенных, як гэта ні парадаксальна, вызваляліся ад вывучэння беларускай мовы, а вучылі толькі беларускую літаратуру. Аднак метадам самаадукацыі і з дапамогай Міколы Рыгоравіча я сур'ёзна засеў за падручнікі, чытаў шмат кніг, газет на мове, і справа пайшла.

**— Ці можаце сёння ўспомніць нейкі самы памятны ў вашым жыцці рэпартаж?**

— Напэўна, усё ж такі гэта чвэрцьфінальны матч Алімпіяды ў Солт-Лейк-Сіці, калі хакейная зборная Беларусі перамагла шведаў. І, магчыма, асобнай вехай у сваёй каментатарскай кар'еры лічу для сябе 1990 год, калі ў ліку шасці спартыўных каментатараў Цэнтральнага тэлебачання, разам з мэтрамі Уладзімірым Пературыным, Яўгенам Маёравым, Уладзімірам Маслачэнкам, Генадзем Арловым і Катэ Махарадзе, мне давялося каменціраваць на ўвесь былы Саюз футбольныя матчы чэмпіянату свету 1990 года з Італіі, адкуль я правёў 13 рэпартажаў.

**— Кажуць, што нервовыя клеткі не ўзнаўляюцца, а каментатары — людзі надзвычай эмацыянальныя...**

— Калі вы маеце на ўвазе колер маіх валасоў, то гэта не паказчык — мая маці пасівела ў 30 гадоў, так што, напэўна, сказваюцца спадчынныя гены. Скажу шчыра, сёння, калі мне пяцьдзесят, энергіі, жадання, эмоцый у мяне не менш, чым было ў 81-м, калі правёў свой першы рэпартаж. І калі некаторыя каменціруюць мой юбілей "Уладзімір Навіцкі выйшаў па жыцці ў паўфінал", я на гэта рэагую адназначна: "Чаму ў паўфінал? Па жыцці я пакуль на стадыі групавога турніру".

Што ж, яшчэ раз віншуем Уладзіміра Мікалаевіча з юбілеем і пажадаем яму таго, чаго кожны раз жадае юбіляр, калі заканчвае свой чарговы рэпартаж: "Бывайце здаровы, жывіце багата!".

**Алесь СІВЫ.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Ветераны воевали за индульгенцию для нынешней власти?

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Белорусское руководство искренне любит тему народного подвига в Отечественной войне. Каждый День Победы отмечают с высоких трибун фейерверками красноречия. По мнению независимых аналитиков, здесь налицо не только дань сакральной теме, но и прагматичный политический расчет. Нынешняя власть не прочь погреться в лучах ветеранской славы. Теперь это называют — сделать себе пиар.

5 мая в Могилеве прошло заседание оргкомитета по подготовке празднования годовщины освобождения Беларуси и победы в Великой Отечественной войне. Александр Лукашенко не ограничился на этом мероприятии только организационными проблемами — как окружить заботой ветеранов и привести в достойный вид памятники. Официальный лидер призвал "давать серьезнейший отлуп" фальсификаторам истории. И сам показал пример такого идеологического отпора.

В частности (и это вполне гармонирует с недавним образом "прицела газовой трубы"), выяснилось, что *"особенно из России эта зараза в Беларусь переползла, когда начинают в целях ревизии истории просто оплевывать вот эти годы и принижать победу советского народа в Великой Отечественной войне"*. Впечатлительный электорат вполне мог сделать гробовой для союзного проекта вывод: слава богу, что не успели интегрироваться с такой заразной страной!

Основной же отлуп пришелся на Запад. *"Вот нас сегодня пытаются поучать. Запад... Что у нас не так делается, что надо вот права человека, надо открыть все, забыть все и так далее,* — заметил белорусский руководитель. И перешел к главному: — *Нас учить не надо. Мы им должны говорить, что мы вас должны учить, и проводить уроки Великой Отечественной войны. Мы им должны говорить, что вы перед нами должны на коленях стоять, потому что мы от нацизма спасли весь мир"*.

В чем сверхзадача этих эмоциональных рассуждений на тему Победы? Какую ревизию истории имеет в виду официальный лидер? Какой сигнал посылается такими речами массе соотечественников?

Свой анализ этих вопросов предложил в интервью "Белорусским новостям" известный политолог **Юрий Дракохруст.** Он, в частности, сделал ремарку, что *"мир от коричневой чумы спасли также англичане и американцы. При этом именно американцы наиболее жестко критикуют политику нынешней белорусской власти. Так что совершенно непонятно, почему одни спасители от коричневой чумы должны становиться на колени перед другими спасителями"*.

Аналитик заострил внимание на таком принципиальном моменте: *"Да, Беларусь действительно понесла чудовищные потери и внесла большой вклад в победу над нацизмом. Но этот исторический факт не может быть вечным оправданием, абсолютной индульгенцией. Им нельзя прикрывать все то, что делалось после войны и делается сейчас. Тот факт, что миллионы белорусов погибли в минувшую войну, вовсе не означает, что нынешней белорусской власти позволено, например, нарушать, игнорировать права человека"*.

По мысли Юрия Дракохруста, показательно уже само то, что в качестве оправдания сегодняшней политики власть по поводу и без повода прибегает к прежним победам, к заслугам уже почти ушедших из жизни поколений (право, ведь не теперешняя руководящая элита гнила в окопах и бросалась на амбразуры!). *"Это свидетельствует, что в сегодняшних деяниях столь бесспорных аргументов в свою пользу она, власть, найти не может. Эксплуатация же памяти в интересах сиюминутной политики вряд ли делает честь как этой памяти, так и этой политике"*.

Ну а под искажением истории, считает политолог, *"видимо, имеется в виду то, что сейчас в исторических трудах более объективно, взвешенно отражается роль союзников. Ведь как было в старые времена? Советский Союз выиграл войну — и точка! И както забывалось, например, что англичане вели войну против нацизма уже тогда, когда товарищ Сталин еще подписывал с фюрером договоры о дружбе"*.

В интервью "Белорусским новостям" аналитик отметил и еще один, уже скорее психологический аспект подобных предпраздничных речей. Обществу предлагают некую виртуальную компенсацию за невзрачное теперешнее существование. Вот, гордитесь великим подвигом и не думайте, скажем, про то, что побежденные сегодня живут на порядок лучше победителей. Иначе говоря, массам преподносят гордость за прошлое вместо гордости за настоящее. Потому что сегодня ни благосостоянием, ни демократическими завоеваниями Беларусь перед Западом, мягко говоря, козырнуть не может. По сути, власть так и не сумела выстроить нечто столь же достойное на действительно мощном фундаменте великого народного подвига. *"Та победа не превратилась в победы над сегодняшними вызовами времени"*, — резюмировал Юрий Дракохруст.

*("Белорусские новости".)*

СТРАНИЦЫ ИСТОРИИ

# «Кровавые»

*В эти дни широко отмечается 59-летие Великой Победы. Белорусский народ сохранил в своей памяти не только имена своих освободителей от фашистского ига, но и тех, кто виноват в огромных жертвах нашего народа, кто оставил свой кровавый след на белорусской земле. Среди них "кровавые" фельдмаршалы гитлеровского вермахта Вильгельм Кейтель, Федор (Теодор) фон Бок и Гюнтер Клюге.*

Широким кругам читателей хорошо известно имя нацистского военного преступника, военного деятеля Германии, начальника штаба Верховного главнокомандования вермахта Вильгельма Бодевина Иоганна Густава Кейтеля. Он прошел путь от фаненюнкера 46-го артиллерийского полка до одного из руководителей вермахта, от лейтенанта до генерал-фельдмаршала. На протяжении семи лет (1938—1945) Вильгельм Кейтель был ближайшим военным советником Гитлера. Именно он 8 мая 1945 года подписал акт о капитуляции вооруженных сил нацистской Германии.

Вместе с фельдмаршалом Вальтером фон Браухичем, генералами Францем Гальдером, Фридрихом Паулюсом и другими гитлеровскими военачальниками Кейтель принял активное участие в разработке плана "Барбаросса".

В то же время следует заметить, что он оценивал военный потенциал Красной Армии выше, чем Гитлер. В своих воспоминаниях "Взгляд в прошлое накануне смертного приговора", написанных во время тюремного заключения и судебного процесса в Нюрнберге в сентябре — начале октября 1946 года, Кейтель отмечал:

*"...Однако, исходя из моих впечатлений от пребывания в Советском Союзе в качестве гостя Красной Армии на маневрах 1932 г., я оценивал русский военный потенциал иначе, чем Гитлер. Он постоянно исходил из того, что Россия находится в состоянии построения собственной военной промышленности и еще отнюдь не справилась с ним, а также из того, что Сталин уничтожил в 1937 г. весь первый эшелон высших военачальников, а способных умов среди пришедших на их место пока нет. Он был одержим идеей: столкновение так или иначе, но обязательно произойдет, и было бы ошибкой ждать, когда противник изготовится и нападет на нас..."*.

Несомненно, Вильгельм Кейтель был одним из главных нацистских военных преступников. Именно он в мае 1941 года подписал печально знаменитый "Приказ о комиссарах", согласно которому немецким солдатам вменялось в обязанность расстреливать без всякого суда и следствия или военного трибунала захваченных в плен коммунистов и политработников Красной Армии. 27 июля 1941 года Кейтель подписал приказ, дававший рейхсфюреру СС Гиммлеру неограниченные полномочия в осуществлении "расовой программы" в оккупированной части СССР. По сути дела, этот приказ развязывал руки эсэсовским убийцам для уничтожения миллионов людей. 16 декабря 1942 года Кейтель издал еще один приказ по вооруженным силам. Вот выдержка из него:

*"Представляется не только оправданным, но и необходимым, чтобы войска использовали любые методы без каких-либо ограничений, даже против женщин и детей, если только это будет способствовать нашим успехам. Любое проявление жалости является преступлением против народа Германии"*.

Вильгельм Кейтель поставил свою подпись под пресловутым указом Гитлера "Мрак и туман", в соответствии с которым проводилась политика устрашения в оккупированных странах, особенно во Франции и Нидерландах. Согласно этому приказу, любой, заподозренный в сопротивлении нацистам, должен был просто исчезнуть во "мраке и тумане". На самом деле жертвы попадали в руки гестапо, где и погибали. Кейтель пытался оправдать этот указ следующими словами: *"Такова воля фюрера"*.

Он одобрил такие злодеяния, как массовые убийства евреев на оккупированных территориях, расправы над партизанами. Кейтель также одобрительно отнесся к предложению, призывавшему гражданское население Германии на месте расправляться с захваченными летчиками союзников, добавив при этом: *"Я против судебной процедуры. Она не срабатывает"*.

Мало кому известно, что Вильгельм Кейтель бывал в Беларуси, в частности, в городе Борисове. Это происходило 3-4 августа 1941 года. В его воспоминаниях "Взгляд в прошлое накануне смертного приговора" есть такие строки:

*"Вскоре после первых победоносных сражений вновь возникли трения между Гитлером и главнокомандующим сухопутными войсками* (фельдмаршалом Браухичем. — **Э.И.**). *Стратегическая идея Гитлера отличалась от идеи ОКХ (Верховного командования сухопутных войск — Э.И.). В то время как оно всей концентрированной силой группы армий "Центр" преследовало цель захватить Москву и овладеть Валдайской возвышенностью, через которую поддерживалась связь с Ленинградом. Гитлер желал остановиться на общей линии Одесса—Орел—Смоленск—Чудское озеро и, ослабив эту наиболее крупную группу армий* ("Центр". — **Э.И.**) *за счет сокращения ее численного состава и танковых соединений, сначала посредством значительного усиления группы армий "Юг" отобрать у противника Донецкий бассейн, нефтяные месторождения Майкопа и Краснодара, а действиями усиленной группы армий "Север" взять Ленинград и установить коммуникации с Финляндией. Но для решения этих задач обе группы армий (то есть "Юг" и "Север") без их усиления были недостаточно сильны. Он рассматривал эти цели на флангах прежде всего с экономической (Донецкий бассейн) и политической (Финляндия) точек зрения, а также и с точки зрения ведения морской войны (Балтийское море).*

*В стратегическом отношении ему был важен не многомиллионный Ленинград или его мировое значение, а военный порт с Кронштадтом и уничтожение морской крепости, угрожающей нашему транспорту и подготовке подводников на Балтийском море.*

*Вопреки этому, ОКХ было убеждено в том, что ключом [к быстрому окончанию войны] служит его предложение. Фюрер отнюдь не был в этом уверен.*

*Он решил лететь в группу армий "Центр" (Борисов), куда приказал явиться командующим танковых групп (армий) Готу и Гудериану* (командующие приданными группе армий "Центр" 2-й и 3-й танковыми группами (армиями) генерал-полковник Гейнц Гудериан и генерал-полковник Герман Гот. — **Э.И.**). *Я сопровождал Гитлера и присутствовал на этом совещании с командующими группой армий "Центр" фон Боком и его танковыми генералами, которых фюрер первыми (во всяком случае, одного из них) хотел повернуть к обеим соседним группам армий. Однако он натолкнулся на их единый фронт отказа..."*.

Когда же Вильгельм Кейтель прилетел в Борисов?

Перед нами воспоминания бывшего полковника геринговских "люфтваффе" Николауса фон Белова "Я был адъютантом Гитлера", изданные в ФРГ, в Майнце в 1980 году. Он писал:

*"3 августа (1941 года. — **Э.И.**) мы вылетели к фельдмаршалу фон Боку в Борисов, где находилось командование группы армий "Центр"..."*.

Итак, белорусский город Борисов заполняют автомашины со штандартами командующих армий и групп, вызванные на утреннее совещание 4 августа 1941 года у Гитлера, который прилетел сюда 3 августа вечером. Пред очи фюрера, кроме Бока, вызывают Гудериана и Гота. Из ставки прибывает неразлучная пара — Кейтель и Йодль (генерал, начальник штаба оперативного руководства Верховного командования вермахта (ОКВ). — **Э.И.**). Браухича и Гальдера представлял начальник оперотдела генштаба сухопутных войск полковник Хойзингер. Гитлер выслушивает доклады генералов, которые высказываются за немедленный (15—20 августа) марш на Москву. Затем он советуется с Кейтелем и Йодлем и отвечает Гудериану и Готу, что в настоящее время "важнее" Ленинград и Украина. 12 августа 1941 года Гитлер указывает Кейтелю и Йодлю, что "предпосылкой всех дальнейших операций является ликвидация сил противника, которые находятся на фланге, особенно на южном фланге группы армий "Центр".

В тот же день, когда на белорусской земле идут ожесточенные бои, Кейтель требует от главкома сухопутных войск фельдмаршала Браухича "обеспечить фланги Бока".

Какова же дальнейшая судьба Вильгельма Кейтеля?

Во время покушения на Гитлера 20 июля 1944 года он получил легкие ранения. Глава ОКВ стал председателем суда чести, который санкционировал арест около 7 тысяч офицеров.

Вместе с генерал-полковником Г.Штумпфом и генерал-адмиралом Г.Фридебургом 8 мая 1945 года Кейтель подписал Акт о капитуляции Германии. Он был арестован во Фленсбурге-Мюрвике вместе с членами правительства К.Деница.

В качестве главного военного преступника генерал-фельдмаршал Вильгельм Кейтель предстал перед судом Международного военного трибунала в Нюрнберге. Он был признан виновным в преступлениях против мира, против человечества и в военных преступлениях и приговорен к смертной казни. Кейтель был повешен 16 октября 1946 года.

Вполне правомерно назвать "кровавым" фельдмаршалом и генерал-фельдмаршала Федора (Теодора) фон Бока, оставившего печальную славу о себе на белорусской земле в годы Великой Отечественной войны. Начав свою карьеру адъютантом батальона, он окончил ее командующим группами армий "Центр" и "Юг". В конце 1938 года войска под его командованием оккупировали Судетскую область. Во Французской кампании Бок занял Нидерланды, Бельгию и, разбив франко-английские войска, вынудил их эвакуироваться из Дюнкерка. С сентября 1940 года фельдмаршал Бок командовал войсками, осуществлявшими прикрытие советско-германской демаркационной линии.

Вот что сказал о Боке его соратник генерал-майор фон Герсдорф:

*"В "тройном созвездии" немецких фельдмаршалов — Рундштедт, Манштейн, Бок — Теодор фон Бок был, пожалуй, самой блестящей фигурой. Большой стратег, знаток своего дела, прусский фельдмаршал, каким его можно себе представить: точный, корректный, лощеный. Однако эти профессиональные свойства соединились у Бока с честолюбием, карьеризмом и безжалостностью. Как принято говорить, Бок был человеком, который шел по трупам..."*

ПУЛЬС

## Праляцім!

Авіяцыя на парадзе 3 ліпеня будзе. Пра гэта ў размове з журналістамі заявіў міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў. Паводле яго слоў, цяпер у ваенным ведамстве адпрацоўваюцца варыянты ўдзелу баявых самалётаў у парадзе ў гонар 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У прыватнасці, мяркуецца задзейнічаць самалёт МіГ-29БМ (беларускі мадэрнізаваны), якога "ніхто не мае", сказаў міністр.

У парадзе плануецца задзейнічаць больш за сто адзінак рознай ваеннай тэхнікі, у тым ліку танкі Т-72Б, баявыя машыны пяхоты БМП-2, бронетранспарцёры БТР-80, рэактыўныя сістэмы залпавага агню "БелГрад" і "Смерч", зенітныя ракетныя комплексы С-300.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Танец з вяночкамі

photo.bymedia.net

НУ І НУ!

## Стратны экспарт

Больш за мільярд рублёў за год склалі страты Глыбоцкага малочнакансервавага камбіната ад нявыгадных экспертных паставак.

Цяжка сказаць, чым (непрафесіяналізмам спяцоў або асабістымі інтарэсамі кіраўніцтва) тлумачылася асаблівая прыязнасць глыбачан да аднаго замежнага партнёра — маскоўскага гандлёвага дома "Юкон", але менавіта яму даўно знакаміты за межамі Віцебшчыны камбінат на працягу шасці месяцаў прадаў згушчанага малака амаль на 12 мільярдаў рублёў, атрымаўшы толькі ад гэтай аперацыі паўмільярда рублёў страт.

І гэта яшчэ не самае дзіўнае, бо неабавязковасць замежных партнёраў — нярэдкая справа. Супрацоўнікаў Віцебскага камітэта дзяржкантролю здзівіла, што, згодна з пісьмовым распараджэннем расійскіх пакупнікоў, набытая "Юконам" глыбоцкая згушчанка накіроўвалася не ў Маскву, а ў камерцыйныя кропкі беларускай сталіцы, дзе і прадавалася з добрым "наварам" для расійскіх імпарцёраў.

Цяпер Камітэт дзяржкантролю па Віцебскай вобласці спрабуе разабрацца ў тым, хто канкрэтна меў асабістую выгаду ад гэтай хітрай камбінацыі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

СПОВЕДЗЬ

# Боль

Той дзень памятаю да драбніц. Я пакарміла маленькага сына, з якім сядзела ў дэкрэтным водпуску, і пачала гатаваць абед мужу, што неўзабаве павінен быў прыйсці: ён працаваў на будоўлі майстрам. Калі ў дзверы пазванілі, я здзівілася, бо ў Вадзіма быў свой ключ. За парогам стаяла жанчына з яго брыгады. У руках яна трымала боты.

— Любачка, не ведаю, як і сказаць. Бяда здарылася з тваім мужам. Хлопцы выбівалі драўляную балку-апору, а Вадзім стаяў побач. Нечакана балка стала падаць на яго. Вадзім пачаў адступаць назад, а там паблізу знаходзілася скрыня з растворам. Ён спіной упаў у гэту скрыню. Правая нага знаходзілася паміж балкай і металічным кантам... Нагу моцна пакалечыла. Прыехала "хуткая дапамога" і забрала Вадзіма. А я вось боты прынесла. Халяву правага прыйшлося разрэзаць, бо так зняць не змаглі...

— Сонечка, мілая, пабудзь крышку з малым, а я збегаю, зірну, як ён там.

— Бяжы, — згадзілася жанчына.

Быў люты. На двары галалёдзіца, але я на гэта не зважала. Бегла па нашым маленькім гарадку, а з вачэй няспынна каціліся слёзы.

Я гадавалася ў дзіцячым доме, бацькоў сваіх страціла ў раннім дзяцінстве, і Вадзім ды маленькі сынок, які яшчэ нават не ўмеў хадзіць, былі адзінымі блізкімі людзьмі на ўсім белым свеце.

Муж ляжаў у калідоры, бо ў палаце месца не было. На яго збялелым твары была пакута. Убачыўшы мяне, пастараўся ўсміхнуцца.

— Не плач, Любачка, усё будзе добра, — спрабаваў суцешыць.

Ён яшчэ тры дні варушыў пальцамі пакалечанай нагі, а на чацвёрты яны перасталі слухацца. І тады раённыя дактары выклікалі з Гродзенскай абласной бальніцы хірурга-траўматолага, і ён зрабіў аперацыю: дастаў пакалечаныя мышцы і асколкі касцей. І паехаў.

Якраз у той час ішоў на пенсію адзін з раённых хірургаў. Калегі-дактары загулялі, і на працягу пяці дзён мужу не рабілі перавязкі. А калі нарэшце разбінтавалі рану, там быў гной.

Потым пачалася гангрэна. Пальцы высахлі да такой ступені, што медсястра пінцэтам пасашчыпвала іх, нібы сучкі з дрэва. Варта было крыху паварушыць нагой, як на кляёнцы адразу ўтваралася лужына гною і крыві.

Мінуў люты, сакавік, канчаўся красавік. Мой Вадзім паміраў на вачах у дактароў, якія глядзелі на гэта з дзікім раўнадушшам.

Нечакана ў яго паднялася высокая тэмпература. Варта яму было ўзяць градуснік у руку, як ртуць імкліва бегла ўверх і ўпіралася ў канец. Па ўсім целе пайшлі фіялетавыя пятны.

Адвёзшы маленькага сына да свякроўкі, я ўвесь гэты час была пры мужу. Днём на рабоце, а ноччу сядзела ля ложка, з трывогай гледзячы на пакуты дарагога чалавека і не маючы сіл дапамагчы. Я з адчаем прасіла дактароў:

— Завязіце яго ў Гродна, у абласную бальніцу. Ён жа памірае... Такая высокая тэмпература...

— Ну і што? Акно было адчынена, яго і прадзьмула, — раўнадушна казаў лечачы ўрач. Яму было ўсё роўна, што памірае 26-гадовы хлопец, што сіратой застанецца наш маленькі сынок.

— Не слухай, дачушка, ніякая ў яго не прастуда, — па сакрэце сказала мне пажылая санітарачка. — Я сама чула, як урачы гаварылі: сепсіс у твайго мужа, іншымі словамі, заражэнне крыві... Пры такой хваробе доўга не жывуць...

У апошні дзень красавіка я паехала шукаць ратунку ў Мінск, у Міністэрства аховы здароўя. Урэшце з дапамогай спагадлівых людзей удалося вырваць Вадзіма з рук раённых лекараў і завезці ў Гродна. Яму аднялі нагу. Была пакалечана крыху вышэй костачкі, але прыйшлося ампутыраваць вышэй калена...

Спачатку далі другую групу інваліднасці, потым перавялі на трэцюю, і на працягу шаснаццаці гадоў ВТЭК упарта не хацела яе мяняць.

— А чего вы добиваетесь? У него же еще есть третья часть ноги, — абрадаваў нас аднойчы дабрадзей з ВТЭК. І толькі пад старасць, калі ў Вадзіма з'явілася гіпертанія, яму нарэшце далі другую групу.

32 гады мінула з таго дня, як мой муж стаў калекам. І ўвесь гэты час душа баліць ад несправядлівасці, ад жорсткасці, з якой ставяцца ў нашай краіне да інвалідаў. Муж не сядзеў склаўшы рукі, увесь час працаваў у той жа арганізацыі, дзе атрымаў калецтва. Быў і кладаўшчыком, і кранаўшчыком. Калі працаваў слесарам-сантэхнікам у рабочым інтэрнаце, камендант прымушала яго выконваць усякую работу, што не ўваходзіла ў службовыя абавязкі. Яго, бязногага, прымушалі прыбіраць тэрыторыю за дворніка, касіць траву. Да такой ступені націраў адрэзаную нагу, што чахол на кульці прапітваўся крывёй...

На тую жабрацкую пенсію, што выдавала яму тады дзяржава, пражыць было цяжка. Тым больш, даць адукацыю дзецям. Мы садзілі соткі, трымалі свіней і хатнюю птушку. Толькі Бог ды мы самі ведаем, як цяжка гэта ўсё даставалася.

Муж усе 32 гады заказваў пратэз на Мінскім пратэзным заводзе. Раней з гэтым не было ніякіх праблем. А сёлета, калі звярнуліся з такім пытаннем у Дзяржаўнае страхаванне, якому цяпер перададзена гэтая справа, аказваецца, няма дакументаў, што пацвярджаюць, што ён атрымліваў пратэзы. Выходзіць, і не інвалід зусім. А каб даказаць, што інвалід, то трэба ехаць у Гродна на ВТЭК, і там дадуць даведку. Ехаць, вядома, трэба за свае грошы. А як ехаць, калі ўжо і другая нага баліць. Ён не памятае, калі выходзіў у цэнтр нашага гарадка.

Цяпер Вадзім ледзь не кожны дзень рамантуе свой пратэз, імкнучыся з некалькіх старых зрабіць нешта такое, на чым можна было б хоць на вуліцу выйсці.

Ёсць у народзе такая прымаўка: на каго Бог, на таго і людзі. Справядлівая, між іншым, прымаўка. Калі мой муж чуе па тэлевізары, якія вялікія клопаты ў нас праяўляюцца аб простым народзе, адразу пераключае на іншы канал. Каб не чуць гэтай бясконцай хлусні, разлічанай на залішне даверлівых, каб яшчэ больш не вярэдзіць змучаныя болем цела і душу.

**З пашанай,**

**Любоў Ігараўна.**

**Да друку падрыхтавала Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

## «Тэатральная вясна» Оршы

На працягу трох дзён у Оршы праходзіў Пяты адкрыты фестываль аматарскіх сцэнічных калектываў "Тэатральная вясна", у якім бралі ўдзел больш за дзесяць народных тэатраў з розных гарадоў Віцебшчыны і Мінска, а таксама з Расіі.

Адкрыўся фестываль выступленнем прафесіяналаў: Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Я.Коласа паказаў жыхарам Оршы сваю новую пастаноўку — авантурную камедыю Аляксея Дударава "Люці".

Варта нагадаць, што ініцыятарам "Тэатральнай вясны" ў Оршы стаў у 1996 годзе кіраўнік аднаго са старэйшых у Беларусі аматарскіх сцэнічных калектываў, рэжысёр народнага тэатра Аршанскага ДК чыгуначнікаў Васіль Мігаль.

Цяперашні фестываль фінансаваўся ўжо не адным мясцовым аддзяленнем Беларускай чыгункі, але і гарадскім бюджэтам.

Дарэчы, у Оршы ёсць і яшчэ адзін здаўна вядомы аматарскі калектыў — народны тэатр ільнокамбіната, спектаклі якога 40—50 год таму заваёўвалі ўсесаюзнае прызнанне.

Сёлетні фестываль паказаў, што Орша не губляе славу тэатральнага горада: аматарскі рух у гэтым напрамку працягваецца моладдзю, колькасць самадзейных артыстаў штогод узрастае.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ПАСТСКРЫПТУМ

# Шушкевіч не хоча ў анклаў

## Палітыкі каментуюць апошнія ініцыятывы Еўрасаюза

Як вядома, Еўрапейскі Саюз прыступіў да фарміравання новага глабальнага падыходу да адносін са сваімі найбліжэйшымі суседзямі, уключаючы Расію, Украіну і Беларусь. Амаль адразу ж пасля далучэння да ЕС дзесяці новых членаў прэзідэнт Еўрапейскай камісіі **Рамана ПРОДЗІ** (пра гэта "Народная воля" ўжо паведамляла) здзівіў усіх заявай пра тое, што Беларусь, Расія і Украіна *"не могуць быць членамі Еўрапейскага парламента і Еўрапейскай камісіі"*.

На думку старшыні Вярхоўнага Савета 12-га склікання **Станіслава ШУШКЕВІЧА,** *"Продзі далёка ад Беларусі, а таму не вельмі добра ведае нашу гісторыю. Тыя, хто бліжэй да нас, напрыклад, міністр замежных спраў Польшчы, лепей разумеюць, што Беларусь у момант, калі стане на нармальны шлях развіця, мае ўсе шанцы быць у Еўрасаюзе"*.

*"Іншае пытанне,* — разважае С.Шушкевіч у інтэрв'ю "Народнай волі", — *ці трэба гэта нам? Гэта не такое простае пытанне, як можа паказацца з першага погляду. Прымаючы і, безумоўна, згаджаючыся з усімі еўрапейскімі дэмакратычнымі стандартамі, я б хацеў усвядоміць, у якім стане Беларусі быць лягчэй і як карысней будзе для беларускага народа. Швейцарыя, напрыклад, таксама еўрапейская краіна, але ў Еўрасаюз не ўваходзіць. Я лічу, што перш за ўсё Беларусь павінна быць нейтральнай еўрапейскай краінай, як гэта прапісана ў Канстытуцыі"*.

Прычыну непрымання Беларусі ў ЕС былы кіраўнік дзяржавы бачыць у тым, што *"Беларусь не набліжаецца па сваіх дзяржаўных стандартах да Еўрасаюза, а, наадварот, аддаляецца ад яго. Беларусь не выконвае тых рэкамендацый, якія ёй даюць па ўсіх накірунках ад усіх еўрапейскіх структур — аб адстаўцы генеральнага пракурора, аб незалежным расследаванні спраў зніклых, не гаворачы ўжо пра розныя ваяўнічыя заявы Лукашэнкі ў бок НАТО"*. *"Але ёсць тут і другі аспект,* — упэўнены С.Шушкевіч. — *Некаторыя еўрапейскія палітыкі сцвярджаюць, што аб'яднанай Еўропе патрэбен нейкі "санітарна-кардонны пояс". Гэта — абразлівая пазіцыя! Я не хачу быць ніякім анклавам, думаю, што і народ наш не хоча"*.

Нагадаем, што некалькі дзён таму сваю ацэнку ініцыятывам Еўракамісіі даў у інтэрв'ю "Радыё "Свабода" міністр замежных спраў Польшчы **Уладзімір ЦІМАШЭВІЧ.** Ён заявіў, што, нягледзячы на цалкам адмоўны для беларускіх улад палітычны клімат у Еўропе, *"для нас вельмі важна, каб беларусы маглі атрымаць моцны сігнал пра тое, што Еўропа не забылася пра іх, што мы хочам, каб беларусы перажылі тое, што і мы, — дэмакратызацыю, паляпшэнне эканамічнай сітуацыі. Каб беларусы, калі будуць гэтага хацець, мелі больш свабоды, каб іхныя правы шанаваліся. Лічу абсалютна нармальным спадзявацца, што так калісьці і будзе. Пра гэта беларусам трэба казаць, бо калі не будзе іншых сігналаў, дык праз дзяржаўнае Беларускае тэлебачанне ім можна будзе ўнушыць што заўгодна"*.

У Міністэрстве замежных спраў Беларусі апошнюю заяву прэзідэнта Еўракамісіі ўспрынялі *"са шкадаваннем"*. Як заявіў на чарговым брыфінгу намеснік начальніка ўпраўлення інфармацыі МЗС **Руслан ЕСІН,** *"беларускі бок зацікаўлены ў супрацоўніцтве з Еўрасаюзам і краінамі — членамі ЕС у гандлёва-эканамічнай, навукова-тэхнічнай, інвестыцыйнай сферах, а таксама ў пашырэнні фармату палітычнага дыялогу паміж Бруселем і Мінскам"*. Р.Есін выказаў спадзяванне, што Еўрапейскі Саюз будзе ўсё ж працягваць актыўнае супрацоўніцтва з Беларуссю.

Голых спадзяванняў, як паказвае жыццёвы вопыт, не заўсёды ўсё ж дастаткова. Вельмі вобразна і, на мой погляд, удала выказаўся пра нашу краіну з пункту гледжання еўрапейца ў нядаўнім інтэрв'ю "Народнай волі" Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Французскай Рэспублікі ў Беларусі **Стэфан ШМЯЛЕЎСКІ:** *"Дапусцім, у вашага суседа з дня ў дзень пастаянна збіраюцца шумныя кампаніі, ладзяцца вечарынкі. А ён ведае, што за сценкай у вас старая, хворая маці, якой патрэбны спакой і адпачынак. Вы ўжо некалькі разоў казалі яму пра гэта, прасілі збірацца радзей. А сусед вам адказвае: у сябе дома я магу прымаць каго заўгодна, калі заўгодна і колькі заўгодна. Па сутнасці справы ён сам праводзіць самаізаляцыю, дзейнічаючы такім чынам. Дык ён ізалюе сябе і ад вас, і ад іншых суседзяў, прымітыўна сцвярджаючы, што ў сябе дома ён можа рабіць усё, што яму ўздумаецца"*.

Так што пакуль беларускі сусед не перастане "скандаліць", з непавагай ставіцца да "хворай маці", ніхто ў Еўропе не будзе ўспрымаць заявы нашага МЗС усур'ёз. Пакуль не будуць расследаваны "гучныя справы" і ўлады Беларусі не прыпыняць катаванне палітычных апанентаў і незалежных СМІ, усе гэтыя заявы МЗС застануцца ўсяго толькі марным лямантам у пустыні.

Адным словам, раніцай — справы, вечарам — працяг добрага стаўлення ЕС да Беларусі!

**Алесь СІЛІЧ.**

